

№ 1 (109) сакавік 2000 • Згуртаваньне Беларусаў Вялікае Брытаніі

# КАМУНІКАТ

**Адкрыты ліст Старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Івонкі Сурвіллы да беларускага народу**

*Дарагія мае браты і сёстры — беларусы!*

Зьвяртаецца да Вас Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі — той Рады, якой беларускі народ у 1917 годзе даручыў свой лёс і якая абвесьціла 25 сакавіка 1918 году незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. На долю Рады БНР выпала цяжкая адказнасьць бараніць гэтую незалежнасьць ды змагацца за яе ўсімі даступнымі сродкамі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі робіць усё, што можа, каб памагчы Беларусі перажыць цяперашні крызыс ды выйсьці зь яго

## *Івонка Сурвілла*:

# 25 сакавіка выходзьце сотнямі тысяч на вуліцы

Рада БНР выбрала мяне на становішча старшыні ў 1997 годзе. Упершыню выбрала жанчыну, сіла якое — дазволю сабе сказаць словамі нашага вялікага Янкі Купалы — у «любові да свае Радзімы, да свайго народу».

Напярэдадні нашага Дня Волі, дня, які нашыя суродзічы ўва ўсім сьвеце сьвяткуюць як найвялікшае нашае нацыянальнае сьвята — нашае сьвята годнасьці, бо ж у гэты дзень народ наш абвесьціў сьвету, пасьля доўгай няволі, што ён таксама хоча жыць вольным і незалежным ды быць гаспадаром у сваёй хаце — хачу падзяліцца з Вамі маім болем і маёй трывогай за Вашу будучыню і за будучыню Вашых дзетак і ўнукаў. Бо край наш знаходзіцца зноў у вялікай небясьпецы. Зноў хочуць адабраць яго ў Вас, зьняволіць Вас.

Сталін сваім часам нішчыў наш народ голадам, арыштамі і ссылкамі ў Сібір. Цяпер ягоныя пасьлядоўнікі Пуцін і Лукашэнка, пры дапамозе хлусьні і паліцыйнай сілы, намагаюцца паставіць Вас ізноў на службу «стратэгічным інтарэсам» расейскай імпэрыі. Ва ўмовах зманапалізаваных сродкаў масавае інфармацыі, лукашэнкаўскі рэжым зацягвае Вас у так званую інтэграцыю з Расеяй. Але адзіным вынікам гэтае прадажнае палітыкі будзе Вашае зьбядненьне, ды ў канцы зьнішчэньне Вас як нацыі, як народу.

Дарагія мае браты і сёстры — беларусы, дарагая моладзь, любыя дзеткі (з тысячамі якіх я мела нагоду спаткацца тут, у Канадзе)! Першы раз зьвяртаюся да Вас з адкрытым лістом, бо хачу, каб Вы мяне пачулі.

незалежнай, свабоднай і заможнай краінай. Але бяз Вашага ўдзелу мы ня выратуем Бацькаўшчыны. Трэба, каб і Вы паказалі сьвету, што Вы ведаеце вартасьць волі, што ня хочаце быць прыладай маскоўскага імпэрыялізму й праліваць за яго сваю кроў.

Пры развале савецкай камуністычнай імпэрыі Бог даў нашаму народу вялікі падарунак — Волю. Такія цуды ў гісторыі не паўтараюцца. Дык не дапусьцім жа, каб гэты падарунак пайшоў намарна. Беражэце гэты скарб Ваш. Пакажэце сьвету, што беларускі народ яшчэ жыве. У Дзень Волі 25 сакавіка выходзьце сотнямі тысячаў на вуліцы. Ідзеце са сьцягамі, сьвечкамі і абразамі. З малітвай да Бога, каб ён паслаў «праменьні Свае хвалы» на наш край і народ!

Жадаю Вам сілы, мужнасьці, вытрываласьці.

Жыве Беларусь!

Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады БНР

# Ад рэдактара:



ORHAN ZHURTAVAŃNIA BIEŁARUSAŬ U V. BRYTANII
BULLETIN OF THE ASSOCIATION OF BYELORUSSIANS IN GT. BRITAIN, LTD.

No 12. Krasavik 1951 Hod vyd. VI.

BIEŁARUŚ UČORA I SIAŃNIA

1-ha studzienia 1919 h. była prahałošana Biełaruskaja Savieckaja Sacyjalistyčnaja Respublika...

На сёньняшні дзень Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі зьяўляецца найстарэйшай дзейснай беларускай арганізацыяй у Заходняй Эўропе. Ужо больш за 54 гады мінула з моманту яго заснаваньня. Многія з тых, хто стаяў ля вытокаў беларускага жыцьця ў Брытаніі, даўна адышлі ад нас, багата іншых пераехала жыць ў іншыя краіны. Колькасьць сяброў Згуртаваньня зьменшылася з амаль тысячы ў першыя гады існаваньня арганізацыі да некалькіх дзесяткаў чалавек сёньня.

Разам беларусы здолелі ператрываць найбольш цяжкія гады на чужыне. За гады свае працы ЗБВБ спрычынілася да мноства добрых справаў. Так, калі беларускія ўцекачы ня мелі ні жытла, ні сродкаў да існаваньня (а так у першыя пасьляваенныя гады найчасьцей і здаралася), адзінай падтрымкай для многіх зь іх было Згуртаваньне.

Ад першых дзён сваёй дзейнасьці арганізацыя наладзіла выпуск абежніку "На Шляху", які быў на працягу шмат гадоў крыніцай інфармацыі пра Беларусь і беларускае жыцьцё ў эміграцыі для сяброў ЗБВБ.

Згуртаваньне ў свой час спрычынілася да арганізацыі рэлігійнага жыцьця у Брадфардзе, дзе ў Беларускім доме праваслаўная парафія атрымала памяшканьне для капліцы.

Мела месца нават такая нячуваная болей нідзе на эміграцыі зьява як уласная пошта, калі ў 1971г. падчас страйку паштароў ЗБВБ арганізавала дастаўку карэспандэнцыі ў некалькіх гарадох Вялікае Брытаніі. З гэтае нагоды былі выпушчаныя паштовыя маркі з выявамі беларускае архітэктуры.

Апошнія гады, калі Беларусь ізноў стала незалежнаю, ЗБВБ дапамагае у фінансаваньні розных беларускіх выдавецкіх і культурных ініцыятываў.

Як на Беларусі, так і на эміграцыі цяпер заўважна паглыбляецца інтарэс да гісторыі беларускага замежжа. Так, у ЗША выйшла кніга сп. Вітаўта Кіпеля 'Беларусы ў ЗША' (у дзьвюх варыянтах - па-беларуску й па-ангельску). У 1998 годзе намаганьнямі Віленскага беларускага выдавецтва 'Рунь' зьявілася кароткая, але досыць зьмястоўная кніга 'Беларусы Балтыі'. Часткова гісторыя ЗБВБ закранутая ў кнізе-ўспамінах сп-ні Раісы Жук-Грышкевіч пра свайго мужа 'Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча'. Але акрамя гэтае кнігі амаль нічога не напісана непасрэдна пра беларускае жыцьцё ў Брытаніі. Безумоўна, гэта перадусім наш абавязак зьвярнуцца да ўласнае гісторыі.

Рэдакцыя "Камунікату" запрашае ўсіх суродзічаў у Вялікабрытаніі дапамагчы рэдакцыі сабраць максімальна поўны збор матэрыялаў: успамінаў, дакумэнтаў, здымкаў, - пра нашае жыцьцё ў Брытаніі. Каштоўнымі былі б ня толькі матэрыялы пра грамадзкія падзеі, але і пра жыцьцё асобных людзей, кожнага з нас. У выпадку, калі Вы самі ня ў стане падрыхтаваць такія матэрыялы, але хацелі б падзяліцца ўспамінамі альбо перадаць здымкі й дакумэнты для архіву ЗБВБ, калі ласка, паведамце пра гэта рэдакцыю "Камунікату". Мы будзем радыя дапамагчы вам.

Таксама, дазвольце ад імя Управы ЗБВБ павіншаваць ўсіх са сьвятам 25 сакавіка, днём Незалежнасьці і пажадаць радасьці й моцнага здароўя.

**Ігар Лабацэвіч**



# Chernobyl fallout

***In the last issue of the 'Kamunikat' we published an interview with Dr Flowers. Following it we recived a letter from the coordinator of the eco-movement 'Stop Hinkley' Mr Jim Duffy***

To the Editor

Dear Sir,

As an anti-nuclear campaigner with some interest in the adverse health effects of low-level radiation I was surprised to read Dr Alan Flowers' optimistic views on the legacy of the Chernobyl disaster in the last edition of Kamunikat. I have spent some time in Belarus where the effects of radioactivity are evident in people's daily lives from the tragedy of serious illnesses to the eerie absence of birds in large areas of the country. I would therefore like to take up some of the points which Dr Flowers makes in his interview. Firstly he indicates that radioactivity from Chernobyl fallout is not taken up by agricultural products and points to land currently being farmed in the previously evacuated area north-east of Gomel. Farmland at Khoiniki is the subject of a lengthy report in the Guardian on 9th October, 'Picnic at Chernobyl' which paints a very sad picture of workers knowingly eating and selling irradiated food. Tatyana Loban, the reserve's chief engineer, talks about how snipping away tumours has become routine at the local hospital in Gomel. Tatyana Odintsova, chief biologist at the farm recommends, following monitoring of food, that people should not grow potatoes or any kind of grain such as wheat as general advice after irradiation to land. In the article she goes on to state that Belarusian food standards are much laxer than in the West. According to western standards, she says, no radionuclides would be acceptable in milk, for example, whereas in Belarus the level is 3.7 becquerels per kilogramme. She adds that from the international point of view their produce cannot be used at all. Secondly Dr Flowers goes on to say that predicted increases in cancers have not been substantiated with the exception of thyroid cancers and specific leukemias in the south, all attributable to Chernobyl. However it is well known that many forms of cancer particularly in adults take years to develop - often between 15 and 20 years. Having considered that the explosion took place 13 years ago and in the light of the acknowledged increases in thyroid and other cancers it seems premature to play down the overall predicted cancer rates. Thirdly Dr Flowers talks about nature gradually dispersing the caesium and strontium in the soil through movement, dilution and decay. On the matter of decay he already talks about the very long half lives of these isotopes which seems to negate the point. Some Welsh hillsides are still so affected by Chernobyl fallout that farmers here are not allowed to sell their sheep. Underground aquifers are well known to travel long distances, potentially carrying toxic isotopes to centres of population as drinking water (remember that strontium is soluble and that our bodies treat it as if it were calcium). On the question of dilution, we are not considering a simple poison which if diluted has a reduced biological effect. When ingested by a human being these isotopes can cause mutation and cancer no matter how much water was swallowed with it at the time. I refer Dr Flowers to Dr Chris Busby's Second Event Theory (The Health Effects of Low Level Radiation. Proceedings of a Symposium held at the House of Commons London April 24th 1996. Ed. Richard Bramhall, Aberystwyth: Green Audit, 1997, pp. 12-34.) now gaining recognition by the National Radiological Protection Board. Fourthly Dr Flowers compares the radiation levels in Belarus benignly to background radiation. This is simplistic. There are two types of background radiation to which we are all subject, which is not differentiated in the interview. Man-made isotopes have been surrounding us in abundance since the 1950's and 60's when America and the Soviet Union were involved in massive nuclear arms testing programmes. As a result of this gross violation our bodies all contain particles of plutonium and other toxic isotopes. This irresponsible intoxication is universal and there's plenty of evidence that it is having a global effect in terms of cancers, premature births and other illnesses. It is demeaning to the people of Belarus to say, as Dr Flowers seems to, that a second dose to them in equivalent proportions is acceptable. The other type of background radiation to which the interview refers is naturally-occuring radiation. This has always existed and our immune systems have evolved genetic processes which, to a large extent, give us a capacity to repair its harmful effects. In the forty years during which man-made isotopes have been developed and unleashed our bodies have had no chance to evolve the same protection, especially to long-term exposure and ingestion. Since Chernobyl, views in the scientific world are changing with regard to the harmful effects of even very low doses of radiation as typified by Professor Ernest Sternglass (Richard Bramhall (ed.), ibid., pp. 75-102.). He showed from rigourous studies that there were significant increases in infant mortality, stillbirths, AIDS related deaths and even the reduced numbers of newly hatched birds as far away as America in the period directly after the Chernobyl explosion. I find that Dr Flowers gives in his interview a very complacent message which I would not wish to see received unquestioned by political leaders and scientists with responsibilities in this area or by those generally with the welfare of Belarus at heart.

Yours,

***Jim Duffy***

Rydon Lodge
West Quantoxhead
Somerset

**На пачатку лютага ў Лёндане па запрашэньні Міністэрства замежных справаў краіны знаходзіліся кіраўнікі Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Віктар Івашкевіч (намесьнік старшыні Кангрэсу й рэдактар вядучай прафсаюзнай газэты "Рабочы") і Марыя Аліева (кіраўнік жаночай сэкцыі Кангрэсу). Яны сустракаліся як з кіраўніцтвам зьнешнепалітычнага ведамства Вялікабрытаніі, так і кіраўнікамі буйнейшых прафсаюзаў.**

**9 лютага беларускія госьці наведалі беларускі цэнтар у Лёндане. Прапануем вашай увазе запіс гутаркі В. Івашкевіча і М. Аліевай з супрацоўнікамі "Камунікату", якая адбылася падчас гэтага візіту.**

# Абараняць правы працоўных - быць у апазіцыі да рэжыму

***Раскажыце, калі ласка, як утварыліся на Беларусі незалежныя ад дзяржавы прафсаюзы.***

Яны ўзьніклі ў выніку спантанных масавых страйкаў працоўных (у мітынгах тады ўдзельнічала да 100 тыс. чалавек), якія адбыліся ў Менску на пачатку красавіка 1991 г. Яны сапраўды былі спантанныя, выкліканыя рэзкім павелічэньнем коштаў у краіне. Падчас гэтых выступаў на многіх прадпрыемствах утварыліся страйкавыя камітэты, якія сталі папярэднікамі цяперашніх Свабодных прафсаюзаў.

Месяцам раней пачалі забастоўку гарнякі ў Салігорску, якія падтрымалі страйкі расійскіх гарнякоў. У Салігорску ўзьніклі асобныя структуры Незалежнага прафсаюзу гарнякоў.

У першы момант ніхто з працоўных ня думаў пра сьцягі ці палітычныя патрабаваньні. Аднак, аснову большасьці страйкамаў склалі сябры Беларускага народнага фронту і суполак Рабочага саюзу, які быў блізкі да БНФ. У выніку страйкамы занялі крытычную пазыцыю да ўладаў, якія адначасна зьяўляліся ўласьнікамі прадпрыемстваў, і афіцыйных прафсаюзаў, падкантрольных гэтым жа ўладам.

Падчас перавыбараў "афіцыйных" прафсаюзных камітэтаў у 1991-92 гг. страйкамы спрабавалі ўзначаліць прафсаюзныя арганізацыі на розных прадпрыемствах. Часам гэта атрымлівалася. Істотнай праблемай было тое, што сябрамі прафсаюзаў былі кіраўнікі прадпрыемстваў. Прынцып цяперашніх Свабодных прафсаюзаў: працадаўцы ня могуць стаць сябрамі прафсаюзу.

Прадстаўнікі польскай "Салідарнасьці", зь якой у нас атрымаліся добрыя кантакты, заахвочвалі ствараць агульнанацыянальнае аб'яднаньне, якое ў 1992 г. і ўзьнікла як Канфэдэрацыя Свабодных прафсаюзаў. Гэтаму папярэднічалі доўгія страйкі салігорскіх гарнякоў (у іх удзельнічала да 3 тыс. чалавек), арганізаваныя Незалежным прафсаюзам.

1993-95 гады сталі часам як разьвіцьця структураў, так і адпаведных дзеяньняў. Многага тады мы змаглі дасягнуць праз суды. Юрыдычныя службы прадпрыемстваў аказаліся інэртнымі і малаздольнымі да рэальнай дыскусіі з прафсаюзамі.

Аднак 1995 год прынёс сумныя перамены. Тады прэзыдэнт Лукашэнка разагнаў парлямант, правёў рэфэрэндум, пасьля якога была зьмененая дзяржаўная сымболіка, расейская мова набыла статус дзяржаўнай, а мясцовыя выбарныя ўлады былі сур'ёзна абмежаваныя ў правах. Прыкладна аднаchасова трохдзённы страйк машыністаў менскага метрапалітэту закончыўся шматлікімі арыштамі, масавымі звальненьнямі й забаронай прафсаюзу машыністаў. Кіраўнікі некаторых прадпрыемстваў пасьпяхова выкарысталі момант, каб запужаць працоўных і многіх з іх прымусіць пакінуць шэрагі прафсаюзаў. Стаўленьне дзяржавы да незалежных прафсаюзаў станавілася ўсё больш агрэсіўным. Практычна ўвесь 1995 год быў часам асэнсаваньня гэтых сур'ёзных стратаў як палітычнай апазыцыяй, так і намі.

***Як гэта паўплывала на дзейнасьць прафсаюзаў?***

Прэсінг дзяржавы на прафсаюзныя арнганізацыі прывёў як да зьмяншэньня іх колькасьці, так і колькасьці сяброў прафсаюзаў. Для некаторых галіновых прафсаюзаў зьмены былі фатальнымі, як, напрыклад, для прафсаюзу настаўнікаў. З другога боку, антырыначная палітыка ўладаў справакавала дробных прадпрымальнікаў (збольшага гандляроў) да аб'яднаньня. Іх арганізацыі цяпер - самыя актыўныя і найбольш дынамічна разьвіваюцца, колькасьць іх сяброў - ня менш за 6 тыс.

1997-1998 гады - гэта час лакальных, але даволі шматлікіх, страйкаў на паасобных прадпрыемствах. Збольшага яны пачыналіся спантанна як рэакцыя на нізкі заробак ці

ўвогуле яго адсутнасьць. Такія акцыі былі даволі выніковымі, улады сьпяшаліся задаволіць эканамічныя патрабаваньні.

Ад гэтага часу мы пачалі выдаваць газэту Свабодных прафсаюзаў "Рабочы". Яна распаўсюджваецца валаньцёрамі ў 80 гарадох сярод працоўных задарма. Ейны наклад цяпер - 140 тыс. паасобнікаў.

Сёньня колькасьць сяброў незалежных прафсаюзаў, аб'яднаных у Кангрэсе дэмакратычных прафсаюзаў, - ня менш за 25 тыс. чалавек. Прыкладна столькі мы мелі ў 1995 г. да расправы з машыністамі мэтрапалітэну.

***А што афіцыйныя прафсаюзы?***

Недзе з 1998 г. стала зьмяняцца стаўленьне да палітыкі ўладаў дырэктарату прадпрыемстваў. Адпаведна афіцыйныя прафсаюзы пачалі займаць больш крытычную пазыцыю. У мінулым годзе мы здолелі арганізаваць сумесныя масавыя акцыі пратэсту як у Менску, так і ў іншых гарадох. Хоць афіцыйныя прафсаюзы і ўстрымаліся ад падтрымкі і ўдзелу ў найбуйнейшай мінулагодняй акцыі - Маршу Свабоды 17 кастрычніка мінулага году, але ўсё ж рэакцыя іх кіраўніцтва была прыхільнай. Спадзяюся, з часам супрацоўніцтва будзе пашырацца.

***Як цяпер ставяцца ўлады да прафсаюзаў?***

Рэжым Лукашэнкі не спыняе свайго ціску на нашыя прафсаюзы. Цяпер для гэтага выкарыстоўваюць новыя правілы рэгістрацыі ў дзяржаўных органах суб'ектаў гаспадараньня. Улады спрабуюць спыніць дзейнасьць нашых структураў на прадпрыемствах. Найчасьцей гэта робіцца наступным чынам. Галіноваму прафсаюзу адмаўляюць па якой-небудзь прычыне ў абавязковай перарэгістрацыі. Пракурор адразу ж выдае пастанову аб незаконнасьці дзейнасьці гэтага прафсаюза (сама гэтая пастанова зьяўляецца незаконнай), на падставе чаго кіраўнікам прафсаюзу забараняюць уваход на прадпрыемства, забіраюць прафсаюзныя памяшканьні, а рабочых запалохваюць санкцыямі і прапануюць пакінуць прафсаюз. Так адбылося ў Менску на аўтамабільным заводзе, дзе з 1500 сяброў нашага прафсаюзу засталося 400. Праўда, такое здараецца не паўсюль.

***Якія адносіны склаліся паміж незалежнымі прафсаюзамі і палітычнай апазыцыяй?***



На здымку: Сп-ня М.Аліева, Сп.В.Івашкевіч, Сп-ня.М.Міцкевіч і а.А.Надсон

Мы цесна супрацоўнічаем. Так, я (*В.Івашкевіч*) зьяўляюся адначасна намесьнікам кіраўніка БНФ. На Беларусі дзяржава (г.зн. органы ўлады) - гэта ўласьнік прамысловых прадпрыемстваў, працадаўца. Дыктатарская ўлада ў такіх умовах - дэспатычны працадаўца.

***Якія пэрспэктывы, на Ваш погляд, чакаюць прафсаюзы ў спрыяльных умовах вяртаньня да дэмакратыі?***

Афіцыйныя напаўдзяржаўныя прафсаюзы абавязкова стануць незалежнымі. Усе прафсаюзы будуць зацікаўленыя ў каардынацыі дзеяньняў, раней ці пазьней аб'яднаюцца ў нацыянальны савет прафсаюзаў. Яны будуць падтрымліваць прыватызацыю і лібэральнае рэфармаваньне эканомікі. Працоўнаму ўсё роўна, на каго працаваць: дзяржаву-уласьніка ці бізнэсмэна. Галоўнае - высокі заробак і добрыя ўмовы працы. А прафсаюзы зацікаўленыя, каб дзяржава мела меньш сродкаў для ўціску на іх. З прыватнымі ўласьнікамі ў гэтым сэнсе лягчэй мець справу.

***Чым быў выкліканы Ваш прыезд у Вялікабрытанію?***

Паездку арганізавала знешнепалітычнае ведамства Вялікабрытаніі як акт салідарнасьці з нашай дзейнасьцю, накіраванай як на сацыяльную абарону працоўных, так і на стварэньне ўмоваў для дэмакратычных пераменаў на Беларусі. Карыснымі былі нашыя кантакты з брытанскімі прафсаюзамі. Пабачым, можа, у будучыні лівэрпульскія докеры падтрымаюць нас і адмовяцца разгружаць салігорскія ўгнаеньні - галоўную крыніцу даходаў цяперашняга рэжыму...

***Запісаў А. Нешчарда***

# Кроніка беларускага жыцьця ў Брытаніі

*11 верасьня 1999 году* адбыўся чарговы 53-ці агульны зьезд ЗБВБ. Дэлегаты зьезду заслухалі справаздачы з фінансава-гаспадарчай дзейнасьці Брадфардскага, Манчэстарскага й Лёнданскага аддзелаў ЗБВБ, Па кожнай справаздачы адбылася дыскусыя, пасьля якой была абраная новая Галоўная Управа ў наступным складзе: сп-ня Л. Міхалюк (старшыня), сп. С. Дзейка (намеснік старшыні), др. І. Гурло (скарбнік), сп. І. Лабацэвіч (сакратар), сп.сп. А. Сенька і П.Шаўцоў (сябры Управы). Таксама была абраная новая Наглядная Рада ў складзе сп.сп. С. Будкевіча, А. Ражанца, І. Іванова.

*29 верасьня* адбыўся гадавы агульны зьезд Англа-Беларускага Таварыства, на якім было абранае новае кіраўніцтва арганізацыі: сп. Рован Карстэрс (старшыня), а. А. Надсон і сп. Г. Пікарда (нам. старшыні), сп. П. Шаўцоў (сакратар), Дж. Дзейка (скарбнік), сп.сп.В. Мартынчык, С. Дзейка, др.Флаўэрс, сп-ні Л. Міхалюк і А. Сенька - сябры Управы Англа-Беларускага Таварыства.

*26 лістапада* ў Манчэстары быў прададзены Беларускі дом, які цягам гадоў быў цэнтрам беларускага жыцьця на поўначы Англіі. Многія сябры ЗБВБ памятаюць гэты дом як беларускі клюб, дзе адбывалася мноства розных імпрэзаў. Для некаторых ён быў утульным жытлом . На вялікі жаль па аб'ектыўных прычынах грамадскае жыцьцё ў заняпадзе, таму зьезд ЗБВБ і вырашыў прадаць Манчэстарскі дом. Два іншыя дамы, у Брадфардзе і Лёндане – дагледжаныя і ўжываныя сябрамі арганізацыі. У Лёнданскім доме на дадзены момант вядзецца рамонт.

*27 лістапада* адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная ўгодкам Слуцкага Збройнага Чыну. Сп.сп. І. Іваноў і П. Шаўцоў падрыхтавалі даклады. Перад акадэміяй Галоўная управа правяла сваё паседжаньне, дзе абмеркавала бягучыя пытаньні жыцьця ЗБВБ, сярод якіх рамонт Беларускага дому ў Лёндане.

*19 сьнежня* ў грэцкай катэдры ў Манчастары пад час Сьв. Літургіі Яго Дастойнасьць Уладыка Рыгор (Gregorius) надаў а. Аляксандру Сідарэвічу тытул протапрэзьбітара.



На здымку:
Пад час сустрэчы са
сп. Янкам Запруднікам

*19 студзеня 2000 году* Дэкрэтам Кангрэгацыі для Усходніх Цэркваў былі канчаткова зацьверджаныя беларускія пераклады літургічных тэкстаў - плён шматгадовай працы мітрафорнага пратаерэя а. Аляксандра Надсана. Варты ўвагі той факт, што гэтыя пераклады былі зробленыя з арыгінальнай (грэцкай) мовы.

*13 лютага* адбылася паседжаньне Галоўнае управы ЗБВБ.

У *лютым* гасьцямі беларускае супольнасьці ў Лёндане былі сп. Аляксандар Лукашук, дырэктар беларускай службы "Радыё Свабода" (Прага) і сп. Янка Запруднік, прафэсар Калюмбійскага ўнівэрсітэту, аўтар некалькіх кнігаў па гісторыі Беларусі, зь якімі сябры нашае арганізацыі мелі магчымасьць спаткацца пад час прагляду фільма "Страх" у нядзелю *13 лютага.*

*20 лютага* у беларускай царкве Сьв.ап. Пятра і Паўла адбыўся хрост дачкі сп. Рована і сп-ні Таццяны Карстэрс Ганны (гл. здымак унізе старонкі).

*5 сакавіка* ў той жа царкве былі ахрышчаны дзеці спадарства Васіля і Антры Еўдакімавых Францішак і Алекс. Пасьля хросту ў залі па 39 Holden Road адбылося прыняцьце.

***Віншуем***

**сям'ю Мартынчыкаў з нараджэньнем сына Андрэя**





© *Камунікат* Рэдактар І. Лабацэвіч. *Адрэса ЗБВБ: 52 Penn Road London N7 9RE, tel/fax: 0171-6071455*
*Адрэса рэдакцыі: 41 Holden Road London N12 8HS, tel. 0181-4469162, e-mail: skaryna@clara.co.uk*